 



Беласток. Расце „Цэнтр-II“. Фота Я. Цялушэцкага.




## МАЯ МОВА

Мне без цябе і дня не жыць,
Зямлю не мерац крокам.
Адкрый мне тайну, адкажы:
Адкуль твае вытокі?..
Мо выткана з праменняў ты,
З асенняй пазалоты,
Бо столькі ў словах
дабраты,
Зычлівасці, пяшчоты.
Мо з нарачанскай глыбіні
Бярэш свае вытокі?
Куды сягоння ні зірні —
Твой смелы ўзлёт высокі.
Гаючая, як сок з бяроз,
І шчодрая, як ніва.
Ты — мая песня і мой лёс,
І гэтым я шчаслівы.

**Мечыслаў Шаховіч**


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 4 (987) ГОД XX 26 СТУДЗЕНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.


# ОРЛЯ - ГМІНА ЎЗОРНАЯ

Быў усяго трэці дзень новага 1975 года, але ў гміннае ўпраўленне ў Орлі раз-пораз наведваліся людзі. І не з-за якіх-небудзь там пісулек, а прыходзілі, каб узяць на загаспадарванне некалькі гектараў зямлі з ПФЗ, даведацца пра магчымасць набыцця племяннога маладняку малочнай ці мясной пароды, або аформіць іншыя важныя гаспадарчыя справы. Відаць было, што ў гэтым старым, з колішняй чырвонай цэглы, будынку вырашаюцца найбольш істотныя жыццёвыя праблемы для 29 вёсак, у якіх знаходзіцца 1969 індывідуальных сялянскіх гаспадарак, два сельскагаспадарчыя кааператывы, дзве гаспадаркі сельгасгурткоў і адзін ПГР — у суме 14 241 га ворыўнай зямлі, лугоў і пашы.

Гаспадарка гэта не малая, і наша размова з начальнікам гміны **Пятром Хмялеўскім** і сакратаром гміннага камітэта ПАРП **Яўгенам Леўчукам** канцэнтруецца на асноўных гаспадарчых праблемах гміны.

— Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку ў 1973 годзе вызначыў Орлю на ўзорную, прыкладную гміну для ўсяго Бельскага павету, — не без гонару заўважае Я. Леўчук. — І к палавіне таго года мы апрацавалі грунтоўны план грамадска-гаспадарчага развіцця нашай гміны да 1980 года. План быў адобран павятовым і ваяводскім упраўленнямі і з'яўляецца асновай дзейнасці для ўсіх тутэйшых устаноў і арганізацый.

Гартаю даволі аб'ёмісты, надта старанна апрацаваны дакумент, у якім, як і трэба было чакаць, асноўнае месца займае раздзел „Сельская гаспадарка“. Затрымоўваюся на дзялянцы „Збожжа“.

Калі ў 1972 годзе ў гміне было сабрана ў сярэднім па 21,9 цэнтнера з гектара, дык на 1975 г. намечана сабраць 26 ц/га, на 1980 — 30 ц/га. Скачок аграмадны, але ці пад сілу ён гміне?

— Несумненна, так, — упэўнена адказвае Пётр Хмялеўскі. — Тут дзейнічаем у трох напрамках. Па-першае, ідуць працы па павышэнню сельскагаспадарчай культуры ў індывідуальных сялян: у 1974 годзе яны рассеялі ў сярэднім па 127 кг/га NPK у чыстым рэчыве, у бягучым годзе прадбачваецца ўжо 143 кг/га NPK, у 11 вёсках ідзе вапнаванне кіслых глебаў, гарантуем таксама сялянам высокаўраджайныя сарты насення. Па-другое, дагэтуль каля 1 000 гектараў знаходзілася ва ўладанні састарэлых сялян, асоб адзінокіх і хворых. Ураджаі на іх гаспадарках былі надта нізкія. Цяпер жа 146 пенсіянераў перадасць гэтую тысячу гектараў у дзяржаўны зямельны фонд. Але не падумайце, што яны лягуць аблогам! У паскораным тэмпе правядзем камасацыю і перадамо 168 га ПГР-у, 223 га — сельгасгуртку ў Шэрнях, 120 га — сельгасгуртку ў Шчытах, звыш 60 га возьмуць кааператывы ў Крывой і Крывяцічах. На рэшту ёсць ахвотныя сярод індывідуальных сялян. Па-трэцяе, сельгасгурткі ў Шэрнях і Шчытах не вялі гадоўлі, гаспадарылі слабавата, мелі ў сярэднім па 16 ц/га. Цяпер прыкладаем усе намаганні, каб павысіць узровень іх гаспадаркі, павялічыць угнойванне. Сёлета ў Шэрнях пачынаецца будаўніцтва фермы гадоўлі ўбойнага быдла на 500 штук, а ў Шчытах — адкормкі свіней, спачатку на 500 штук, а ў будучыні да 2 000 кормнікаў. Кожны гектар мусіць радзіць...

— І не толькі радзіць, але і карміць больш жывёлы, — уключаецца ў размову Яўгеній Леўчук і паказвае ў плане на слупок паказчыкаў па жывёлагадоўлі. — Бачыце, у 1973 годзе ў гміне было 5 940 штук быдла, на 1975 г. планавалася давесці яго пагалоўе да 7 770 штук, а ў 1980 годзе — да 10 200, значыць за шэсць год амаль падвоіць яго колькасць. Спачатку мы пабойваліся за рэальнасць такога павелічэння, думалі, што не адолеем. Але ўжо чэрвеньскі перапіс 1974 года выявіў павелічэнне пагалоўя быдла на 24,1 працэнта! Значыць, у чэрвені мінулага года ў гміне ўжо было 7 370 штук, не хапала ўсяго 300 штук да плана, вызначанага на 1975 год. Нашы сяляне, як бачыце, вельмі прыхільна сустрэлі лозунг Беластоцкага ваяводства гадаваць мільён штук быдла і зрабілі ўжо мілевы крок у гэтым напрамку. А рэзервы і ў гэтай галіне маем вялікія. У мінулым годзе вёскі Рэдуты і Крывяцічы загаспадарылі 180 гектараў ранейшага супольнага выгану, які, што і казаць, ляжаў лысы, бы бубен, і жывёла на ім рэвам равела, а не паслася. А вось цяпер стаў ён высокакультурным пасбішчам, засеяным добрымі травамі і належна ўгноеным. Колькасць быдла ў Рэдутах адразу падскочыла на 42 працэнты, а ў Крывяцічах аж на 47 працэнтаў. Падобныя магчымасці

(Працяг на стар. 5)



Орля. Фота Я. Цялушэцкага.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**Міхалова ● Добры год для Бельскага белліцэя ● Як сабраць з 1 гектара звыш 30 цэнтнераў жыта ● Барскі на моры нафты ● Літстаронка ● Наперакор лапцюжнай долі ● Салодкія справы цукровых буракоў ● Весткі з Бельска, Дзянісак, Слойкі, Старога Корніна, Чаромхі, Гайнаўкі, Плёсак, Орлі і інш. ● Песня з рэпертуару Мечыслава Фога „Oddalenie”.**




Ужо ўсё дакладна падлічылі, падсумавалі, і ёсць карэспандэнт года. З пададзеных ніжэй даных бачым, наколькі актыўныя былі карэспандэнты „Нівы“ за 1974 год.

Нашы карэспандэнты апублікавалі ў 1974 г. 502 інфармацыі і артыкулы (1973 г. — 288).

Карэспандэнтаў у 1974 г. было 67 асоб (1973 г. — 68).

Інфармацыі і артыкулы карэспандэнтаў датычыліся 130 мясцовасцей (1973 г. — 95).

Вось найбольш актыўныя карэспандэнты 1974 г. і колькасць іх публікацый:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Т.К. | 66 |
| 2. | Раса | 53 |
| 3. | Мікалай Панфілюк | 49 |
| 4. | Васіль Асеннік | 40 |
| 5. | Пётр Байко | 31 |
| 6. | Віктар Бура | 27 |
| 7. | Мацейка | 21 |
| 8. | Павел Гутнік | 19 |
| 9. | Ружа | 18 |
| 10. | Васіль Петручук | 17 |
| 11. | Адважны | 15 |
| 12. | Смелы | 12 |
| 13. | І. Кірызюк | 11 |
| 14. | (мг) | 9 |
| 15. | Мікола Краўчук | 9 |
| 15. | Суседка | 9 |
| 17. | Жэня Аўсенюк | 7 |
| 18. | Мік. | 7 |
| 19. | М. Матвеюк | 7 |
| 20. | Яўген Семянюк | 6 |

Разам 20 карэспандэнтаў. Гэта авангард. Іншыя напісалі па 5 або менш публікацый. За 1973 г. тых, што напісалі больш чым па 5 публікацый, было 13 карэспандэнтаў.

А вось мясцовасці, якіх датычыліся публікацыі нашых карэспандэнтаў:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Гайнаўка | 49 |
| 2. | Белавежа | 31 |
| 3. | Дубічы Царкоўныя | 27 |
| 4. | Бельск | 23 |
| 5. | Шудзялава | 22 |
| 6. | Спічкі | 20 |
| 7. | Беласток | 17 |
| 8. | Чаромха | 15 |
| 9. | Кожына | 11 |
| 10. | Зубава | 8 |
| 11. | Чыжы | 8 |
| 12. | Міхалова | 7 |
| 13. | Тафілаўцы | 7 |
| 14. | Крывяцічы | 7 |
| 15. | Грэдалі | 7 |
| 16. | Азяблы | 7 |
| 17. | Саколка | 6 |
| 18. | Орля | 6 |

Пра іншыя мясцовасці карэспандэнты пісалі па 5 і менш разоў.

А вось ліцэі:

| | |
|---|---|
| Бельскі беларускі ліцэй | 6 |
| Гайнаўскі беларускі ліцэй | 5 |
| Міхалоўскі ліцэй | 4 |

(Працяг на стар. 4)

 

## Наша галерэя



*Народная артыстка БССР С. М. Станюта. Ювелірныя ўпрыгожанні.*

## Адгалоскі

# АБ „НАВУКОВЫМ ЗБОРНІКУ" — ДРЭННА І ДОБРА

Супольнымі намаганнямі Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Беластоцкага навуковага таварыства выйшаў з друку **„Навуковы зборнік“** пад рэдакцыяй Міхала Кандрацюка. У рэдакцыйны ж савет уваходзілі: Аляксандр Баршчэўскі, Янка Зенюк, Уладзімір Паўлючук, Юрка Туронак і Уладзімір Юзвюк.

Зборнік адкрываецца артыкулам Міхала Кандрацюка **„Некаторыя асаблівасці тапаніміі ўсходняй Беласточчыны“**. Публікацыя гэта, несумненна, цікавая нават звычайнаму чытачу; людзей заўсёды займае пытанне аб паходжанні назвы сваёй або іншых мясцовасцяў. Ёсць, аднак, у гэтым артыкуле і недапушчальныя памылкі, напрыклад, у пункце 46 замест *„Бабікі“* — напісана *„Бабінка“*. Ёсць у ім, і шмат непатрэбшчыны, не адпавядаючай тэме. Кандрацюк даследуе назвы мясцовасцяў на захадзе і поўначы ваяводства, нярэдка пакідаючы ўбаку прадметны ўсход. Хацелася б нешта даведацца пра такія назовы, напрыклад, як: Уснар, Трайглі, Свідзілаўка, Шацілы, Гаркавічы, Слоя, Мішкенікі, Талькоўшчына на Сакольшчыне і інш. Адсюль і ўражанне, што ў гэтым артыкуле шмат выпадковага матэрыялу. Прытым выклікае сумненні і бібліяграфія: няўжо аб нашых ваколіцах пісалі толькі польскія вучоныя? І ніхто больш?

Анна Багроўская публікуе ў гэтым зборніку артыкул **„Параўнальная характарыстыка гаворак дзвюх вёсак з Гайнаўшчыны (Сухавольцы — Семяноўка)“**. Багроўская з'яўляецца строга лагічнай у апісанні ды аналізе сабранага навуковага матэрыялу і адначасова — нелагічнай у канчатковых вывадах, у якіх дыяметральна пярэчыць самой сабе! Аб Семяноўцы яна коратка сцвярджае: *„Насельніцтва беларускае“*, стар. 38. У выпадку ж Сухавольцаў не знаходзім у Багроўскай нічога яснага. Яна, трапіўшы ў антынавуковае паклонніцтва перад аўтарытэтамі, уводзіць нечуваную блытаніцу! Характарызуючы гаворкі абедзвюх вёсак, яна піша на стар. 52, што паміж імі — *„Невялікія лексічныя адрозненні...“*, а ў мове сухавольцаў *„...не назіраем асноўных рыс, уласцівых украінскай мове...“*, стар. 53. У заканчэнні ж аб'яўляе наконт мовы сухавольцаў: *„Будзе гэта пераходная, або нават ўжо паўночна-ўкраінская гаворка,“* стар. 56. Вось табе, бабка, і хвартушок! Багроўскай — гэтаксама і Кандрацюку — аказаліся надта ж важнымі агульныя выказванні Курашкевіча, Глінкі ці Асоўскай. Ці выказванні беларускіх савецкіх мовазнаўцаў з'яўляюцца ёй невядомымі? А шанаванне ўласных думак, га?...

Як бы адказам на пастаўленае вышэй пытанне з'яўляецца публікацыя Анатоля Аксамітава **„Дасягненні і перспектывы беларускага мовазнаўства.“** Зроблены Аксамітавым пералік галоўных прац мінскіх мовазнаўцаў сведчыць аб вялікім размаху вядзення даследаванняў. (Група супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларускай ССР удастоена Дзяржаўнай прэміі Саюза ССР 1971 года).

Васіль Белаказовіч змясціў каротенькі матэрыял — **„Беларускі прыгонны селянін ва ўспрыняцці А. Герцэна і А. Міцкевіча“**. Трэба заўважыць тут, што змест гэтай публікацыі надта ж вузкі ў супастаўленні з яе тэмай. На маю думку, болей адпаведнай была б тэма: У сувязі з літаграфіяй „Беларускі раб“... (У лісце да мастака Боткіна Герцэн пісаў у 1859 годзе: *Ці вы ведаеце літаграфію, некалі зробленую Міцкевічам,* **„Беларускага раба“** *— я на гэты малюнак ніколі не мог глядзець без біцця сэрца,“* стар. 68).

У артыкуле Адама Мальдзіса **„Невядомыя беларускія творы XVIII стагоддзя“** знаходзім тэксты дзвюх любоўных песень і адной, прысвечанай бліжэй невядомай баталіі таго часу. Мальдзіс піша: *„Ад XVIII стагоддзя, калі знікла старая беларуская літаратура, а новая беларуская літаратура пачынала рабіць толькі першыя нясмелыя крокі, да нас дайшло вельмі мала мастацкіх тэкстаў. Некалькі інтэрмедый, некалькі рэлігійных гімнаў і кантаў, „Камедыя“ К. Марашэўскага і „Доктар па прымусу“ М. Цяцерскага, песня беларускіх паўстанцаў 1794 года — вось амаль і ўсё...“, стар. 75.*

Юркі Туронка **„Нарыс развіцця школьніцтва на Беласточчыне ў перыяд 1773-1939 г.г.“** з'яўляецца, бадай, самай значнай публікацыяй у гэтым **„Навуковым зборніку“**, і менавіта ёю павінен быў ён адкрывацца. Працу Туронка немагчыма пераацаніць: яе значэнне — фундаментальнае! Дзеля цікавасці падаю за Туронкам, што ў канцы мінулага стагоддзя ўзровень пісьменнасці насельніцтва ў даўніх Беластоцкім, Сакольскім і Бельскім паветах з'яўляўся самым высокім у Расійскай імперыі і дасягнуў паказчыка 47 працэнтаў (кожны другі чалавек ўмеў чытаць і пісаць. У расійскіх губернях — усяго 30 працэнтаў.) З'явілася гэта, між іншым, у выніку нацэленасці тагачасных улад на ўтварэнне тут своеасаблівага русіфікатарскага кардону.

У раздзеле **„Рэцэнзіі і перагляды“** звяртаюць увагу выказванні Аляксандра Баршчэўскага аб кніжцы М. Грынблата **„Беларусы. Нарысы паходжання і этнічнай гісторыі“**. Баршчэўскі слушна аспрэчвае тэндэнцыю аўтара да таго, што *„...ўсё, што ішло ў Беларусь з Расіі, было добрым, а ўсё, што ішло з Польшчы, было дрэнным,“* стар. 120.

Юры Туронак надта доказна палемізуе са Станіславам Маўэрсбергам, аўтарам кніжкі **„Народнае школьніцтва для нацыянальных меншасцей у Польшчы ў гадах 1918-1939.“** Маўэрсберг паказаў сваю мізэрную арыентацыю ў гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, калі з лёгкай рукі напісаў, што першыя беларускія школы ў сусветную вайну 1914-1918 г.г. з'яўляліся *„..не столькі адлюстраваннем жаданняў беларускага насельніцтва, колькі інструментам нямецкай палітыкі“*. Гэта абразліва!

Рэцэнзію на кніжку **„Загінулі ў барацьбе за ўмацаванне народнай улады на Беласточчыне“** напісаў Уладзімір Юзвюк. Рэакцыйнае падполле атакавала беларускае насельніцтва, між іншым, таму, што яно, побач з рабочым класам, з'яўлялася галоўнай апорай для маладой, народнай улады на Беласточчыне. Гэта наша выдатная спадчына! Юзвюк мае рацыю, калі звяртае ўвагу на неахайнае выданне гэтай кніжкі. А пішучы аб даведніку Ізбы народнай памяці ў Райску — вёскі расстралянай ды разбуранай гітлераўцамі да фундаментаў, па-мойму, занадта спакойна рэагуе ён на факт апублікавання ў гэтым выданні фотаздымка (на ўсю старонку!) ката Райска, эсэсаўца Фрома!! Гэта непрадумана — і зняважліва!

У заканчэнні **„Навуковага зборніка“** Уршуля Лявіцкая і Міхал Кандрацюк публікуюць бібліяграфію публікацый за перыяд 1920-1970 г.г. пад агульнай назвай: **„Беларусы на Беласточчыне“**. Няварта пералічваць тут розныя дробныя памылкі, калі хапае больш істотных, важных прапушчэнняў. Перш за ўсё не відаць у гэтым бібліяграфічным даведніку савецкіх беларускіх прац. Не існуюць? Урэшце-рэшт досыць было звярнуць увагу на зноскі ў публікацыях ГП БГКТ, каб сёетое прыкмеціць, адзначыць! Адсутнасць сістэмнасці відаць таксама і ў тым, што складальнікі бібліяграфіі заўважылі аж восем прац У. Паўлючука, а толькі ўсяго па адной — М. Пецюкевіча ці В. Склубоўскага. Па-за іх увагай засталіся даследаванні В. Белаказовіча, Ю. Туронка, М. Врублеўскага, часткова М. Гайдука і шмат іншых. Ахоплівае пачуццё кур'ёзнасці, калі знаходзіш аж у двух месцах амаль той самы артыкул Рудчыка (паз. 109 і 129).

Напрошваецца яшчэ адно пытанне: што рабіў рэдакцыйны савет у час укамплектоўвання матэрыялаў да гэтага **„Навуковага зборніка“?**

**Сакрат Яновіч**

## БГКТ хроніка

■ 10 студзеня ў Бельску адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта конкурсаў БГКТ. Пастаноўлена, што конкурс „Беларуская песня-75“ адбудзецца 9 лютага. Будзе складацца ён з дзвюх частак. Спачатку будуць выступаць школьнікі, а пасля дарослыя. Агляд тэатральных калектываў бяльчане арганізуюць 23 лютага. На гэтым жа пасяджэнні было выбрана журы конкурсаў.

■ Беластоцкі гарадскі аддзел БГКТ на дзень 12 студзеня падрыхтаваў ёлку для дзяцей, бацькі якіх з'яўляюцца членамі БГКТ. Дзед Мароз раздаваў усім дзецям падарункі.

■ Гданьскі аддзел БГКТ таксама нядаўна арганізаваў ёлку, на якую прыйшлі дзеці са сваімі бацькамі. Варта таксама сказаць і аб тым, што адбыўся там навагодні баль.

■ Амаль ва ўсіх гуртках ў Беластоцкім павеце рыхтуюцца да конкурсу „Беларуская песня-75“, які адбудзецца 2 лютага. Агляд тэатральных калектываў запланаваны на 23 лютага.

■ 13 студзеня традыцыйным балем распачаў карнавал гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку. Іграў музычны калектыў мясцовага аддзела.

■ 13 студзеня пад кіраўніцтвам сакратара ГП БГКТ Янкі Зенюка і з удзелам старшыні ГП Мікалая Самоціка працаваў арганізацыйны камітэт конкурсаў БГКТ. Абмеркаваны былі ўсе справы, якія датычыліся іх правядзення, і ўстаноўлены даты фінальных конкурсаў. Для конкурсу „Беларуская песня — 75“ — на 16 лютага ў Беластоку і для тэатральных калектываў — 16 сакавіка ў Бельску.

■ 11 студзеня ў Бельску ў Доме культуры адбылася маладзёжная танцавальная вечарына. Арганізатарамі яе былі Дом культуры і мясцовае праўленне аддзела БГКТ. (мх)

## Людзі добрай работы

# Мікалай Сахарчук

Ураджэнец Новага Ляўкова Гайнаўскага павету Мікалай Сахарчук гэта малады гаспадар. Мае ён высокія паказчыкі ў галіне вырошчвання збожжавых культур і ў жывёлагадоўлі. Працавіты земляроб у 1973 і 1974 гадах прадаў дзяржаве 2.200 кілаграмаў жыта, чатыры тоны бульбы, больш тысячы кілаграмаў ялавічыны і свініны, амаль 6.500 літраў малака ў год. Такіх высокіх прадукцыйных вынікаў дабіўся на 4,5 га зямельных угоддзяў. Як на дзіва ўдаўся ячмень — 40 кілаграмаў зерня дало плён у 1000 кілаграмаў. На палеткі з ячменем была пасеяна максімальная доза мінеральных угнаенняў.

Вопытны гаспадар пабудаваў новую абору з самастойна зробленых пустакоў. Цяпер гадуе ў ёй свіней і кароў. Завёў нават модную цяпер пароду „Нцб“.

Мікалай Сахарчук — майстар сельскагаспадарчай прадукцыі. За высокія поспехі ён узнагароджаны дыпломам ад імя гмінных адміністрацыйных улад.

Жыхары Ляўкова даверылі Мікалаю Сахарчуку функцыю кіраўніка сельскагаспадарчага гуртка і таксама грамадскую функцыю падсолтыса. Усе гэтыя функцыі выконвае ён паспяхова.

Тэкст і фота (ця)






**Дарагое „Сэрцайка“!**

Працую ў горадзе, а бацькі мае жывуць на вёсцы. Нядаўна выйшла я замуж. Бацькі зрабілі мне вяселле на вёсцы. Запрасіла я сяброў і сябровак, а старшай дружкай была мая сваячка з суседняй вёскі — Ніна. А вядома, як вяселле, дык і танцы. На танцы пайшлі ў святліцу, а туды ўжо і незапрошаныя дзяўчаты і хлопцы прыйшлі. Патанцаваць жа ўсім можна. І вось мая старшая дружка спадабалася аднаму хлопцу з нашай вёскі — Валодзю, які таксама ў горадзе працуе. Папрасіў Ніну танцаваць. Гулялі, пакуль не запрасілі на вясельную вячэру. Тады ўсе вясельныя госці вярнуліся ізноў у вясельны дом. Больш Валодзя з Нінай не спаткаліся. Але аднойчы Валодзя прыйшоў да нас на кватэру — у горад і прасіў вельмі, каб нейк пазнаёміць бліжэй яго з Нінай, гаварыў, каб запрасіла яе сюды на кватэру і ён бы прыйшоў. Але я Валодзю занадта добра ведаю. Любіць гарэлку, а які задзёрлівы, калі нап'ецца, да бойкі кідаецца. І таму я вось думаю, ці варта мне ў гэтыя справы мяшацца? Ці зменіцца ён, ажаніўшыся? А Ніна ж талковая, разумная, шкада дзяўчыны. Ды і наракаць потым на мяне будзе. Муж мой кажа, каб не бралася я за гэта сватанне, ведае ён, дзе Ніна жыве, дык хай сам сабе свае справы ўладжвае. А што ты, „Сэрцайка“, мне параіш?

**Эля з Беластока**

Я таксама з тваім мужам згаджаюся. Ведаеш Валодзю, дык каб вінаватай не стацца, лепш гэтай справай не займайся. Калі б ён быў парадачны, салідны — справа іншая. Чаму ж бы не пазнаёміць яго з адпаведнай дзяўчынай? Скажы яму адкрыта, што сватаць не будзеш, ведае, дзе яна жыве, хай і далей сам свае справы ўладжвае.

**„Сэрцайка“**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Пятнаццаць год таму назад С. Я. прадаў гектар зямлі суседу. Прададзеная зямля гранічыла з аднаго боку з дарогай, а з другога — з апошнім полем С. Я. На гэта поле С. Я. мог праехаць або праз прададзеную зямлю, або праз пасбішча В. І. Праз гэтае пасбішча С. Я. ездзіў на сваё поле многа год. Цяпер В. І. абгарадзіў сваё пасбішча і не дазваляе С.Я. тудою ездзіць. Не дазваляе на праезд таксама сусед, які купіў яго зямлю. Ці можа В. І. забараніць праезд праз сваё пасбішча, хаця С.Я. карыстаўся з праезду многа год, а калі ён мае гэткае права, то што рабіць, каб атрымаць даезд да поля?

АДКАЗ: В. І. можа забараніць праезд праз сваё пасбішча. Праўда, ён паступіў бяспраўна, самавольна загароджваючы праезд, але ён, калі б узнік спор (напрыклад, С.Я. звярнуўся ў суд з патрабаваннем звароту ўладання), В. І. мог бы патрабаваць забароны праезду і гэткую справу ў судзе выйграў бы.

С. Я. можа патрабаваць праз суд вызначэння яму неабходнай дарогі, але толькі праз поле, якое прадаў суседу. Не мае ён асноў да патрабавання гэткай дарогі праз пасбішча В. І. Не мае пры гэтым значэння тое, што ён ездзіў праз гэта пасбішча шмат год. Правы з-за даўнасці ён мог бы атрымаць, калі б праезд меў трывалыя будоўлі, напрыклад, дарога была азначана равамі або забрукавана.

## ВЕР-НЕ ВЕР

### КІПАРЫС

Сёння падаем **прагнозы галійскага гараскопу для тых, што нарадзіліся паміж 25 студзеня — 3 лютага і 26 ліпеня — 4 жніўня. Старажытныя людзі — друіды параўноўвалі выгляд і характар гэтых людзей з кіпарысам.**

Чалавек гэты звычайна бывае шчуплы, але моцны. У яго простыя, рэгулярныя рысы твару. Ёсць у гэтым чалавеку нешта суровае, нешта з не сапсаванага цывілізацыяй чалавека прыроды.

Задавальняецца ён малым і лёгка прыстасоўваецца да сітуацыі. Можа жыць у кожных умовах і быць пры гэтым шчаслівым. Хутка становіцца ён дарослым і самастойным чалавекам.

Гэты чалавек не імкнецца да вялікіх поспехаў у жыцці, не маюць для яго значэння ані грошы, ані слава. Ён хоча быць толькі шчаслівым. Стараецца пазбегнуць усяго, што магло б прынесці яму нейкія клопаты. Любіць вандраваць па лесе, любіць звярыну, паляванне. Часта яго менавіта можна ўбачыць у лодцы з вудачкай. А ўсё ж не любіць ён быць самотным. Стараецца так арганізаваць сваё жыццё, каб быць сярод вялікай сям'і або ў пастаянным кругу сяброў.

Кіпарыс зусім не сентыментальны пры гэтым. Гэты чалавек бывае адначасова жорсткі і не пазбаўлены цеплыні, суровы і мілы. У кампаніі вельмі прыемны, яго прысутнасць уводзіць у кампанію добры настрой.

Кіпарыс любіць марыць і даецца несці сябе жыццю, а не фарміруе яго сам. Стараецца пазбягаць вострых дыскусій. Эластычнасць яго характару спрыяе таму, што з'яўляецца ён такім пажаданым сябрам.

Вельмі верны. Бывае верны свайму каханню, сяброўству, успамінам. І калі да кагосьці мае нейкае пачуццё, дык ужо на цэлае жыццё. Калі належыш да яго сяброў, можаш заўсёды лічыць на яго дапамогу.

Жыццё кіпарыса заўсёды плыве спакойна і плынна сярод тых, якіх ён любіць (зразумела, калі тыя, каго ён кахае, застануцца пры ім назаўсёды).

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### ЯК ПАШЫЦЬ НАЧНУЮ КАШУЛЮ

Кашульку гэткую можна пашыць з палатна ці батысту (у апошні час вельмі модныя матэрыялы) рознага колеру ці ўзораў.

Кашулька гэтая без каўняра і рукавоў, спераду і ззаду сабраная і прышытая да авальнага карчыка, упрыгожана яна аздобамі.

Выкрайка кашулькі падрыхтавана на фігуру з бюстам 90-92 см. На кашулю патрэбна 2,60 м матэрыялу шырынёй 0,90 м.

Выкрайку трэба абрысаваць у натуральнай велічыні і праверыць. Пры кройцы дадаць матэрыял на швы і заканчэнне.

Перад і зад карчыка выкраіць два разы, а раз укладку з белага палатна, ці таго самага матэрыялу , што і кашуля.

Бакі кашулі сшыць адваротным швом: першы раз блізка шва з правага боку тканіны, другі раз, адвярнуўшы, з левага боку тканіны. Верх і ніз карчыка, а таксама ўкладку сшыць на плячах плоскім швом і разгладзіць. З левага боку верху палажыць укладку, зслажыць абедзве часткі карчыка правым бокам усярэдзіну і сшыць уздоўж унутранага краю. Перавярнуць на правы бок і зафастрыгаваць кант. Пахі кашулі закончыць з левага болу пліскамі паводле выкрайкі. Сабраць верх пераду і заду, дапасоўваючы ніз кашулі да даўжыні карчыка. Прыфастрыгаваць і прышыць карчык. Шоў загладзіць усярэдзіну. Ніз карчыка падшыць рукамі, прыкрываючы шоў. Падшыць ніз кашулі, пасля чаго пагладзіць яе. У канцы нашыць аздобы.

**Гаспадыня**







Прончыку ўспомнілася ўчарашняя сварка з жонкаю і ад таго зрабілася яму няёмка. Прытым паліцмайстар спазіраў на яго, быццам дабрадушны святар у час споведзі; трэба было нешта сказаць. І ён пацвердзіў, што віна мужоў перад жонкамі — сапраўды вялікая! Яны нярэдка без дай прычыны руйнуюць асабістае, а таксама і сямейнае шчасце. Найгоршае ва ўсім гэтым — гэта пакутніцтва дзяцей. У нічым невінаватых!

„Сваркі, як зладзействы, — думаў Прончык. — Пачынаюцца яны ад глупстваў, зусім ад глупстваў...“

Прыблізна ў падобным настроі знаходзіўся і паліцмайстар. Але яму гэта было ўжо не ўпершыню.

— Так, — уздыхнуў да Прончыка і зараз жа адзначыў сабе задаволена: „Спяваеш па маіх нотах, браток. Ну, паспяваем сабе далей“. Ён набраўся гневу: — Чулі вы: у Востраве, не так даўно, бандыты гвалцілі жанчын і дзяўчат. Кажуць, гэта паўстанцы... Я не веру ў тое: паўстанцы — высакародныя людзі, яны ідуць на смерць за ідэю, страляюць бандытаў гэтаксама, як і мы, законная ўлада...

Адчынілі дзверы — прынеслі гарбату.

— Частуйцеся, — паліцмайстар пагасцінneў. Ён дастаў з крэдэнса бутэльку рому. — Добра выпіць чаю з ромам — памагае ад застуды.

— Дзякую. Я не п'ю...

Паліцмайстар намерыўся пажартаваць па-мужчынску, але пагамаваўся.

— Выбачайце, — сказаў. — Выбачайце, я не ведаў, — узяўся хваліць: — Вы — ідэальны муж! Мая жонка зайздросціла б вашай, — бутэльку заткнуў. — Факт, спіртныя напіткі шкодзяць здароўю ды, здараецца, і да граху даводзяць яны.

Аднак — бутэлька засталася. Стаяла яна, як бы на ўсякі выпадак.

Саладзілі і пілі гарбату, смакавалі пірожнае.

Паліцмайстар выцерся ў салфетку.

— Мы не дапусцім да разбою ў нашым уездзе, — сказаў ён. — Бандыты будуць схоплены і пакараны паводле ўсяе суровасці закона, — перавёў дух. — Лепшыя людзі з народа дапамогуць нам, паліцыі, у выкананні ўскладзеных на нас грамадствам адказных абавязкаў захавання ладу ды бяспечнасці...

Прончык зразумеў: у Востраве мела месца спроба гвалту жанчын з збоку трох п'яных шляхціцаў — з ваяводскага штабнога атрада Духінскага. Панурая і небяспечная гісторыя! Паліцмайстар нешта чуў аб гэтым і, выкарыстоўваючы людскае абурэнне, задумаў памалу дабірацца да штаба паўстанцаў у лясах...

— Бандытаў — лавіць і вешаць! — выкрыкнуў Прончык, і аж здзівіўся самаму сабе. Абурэнне далося яму лёгка. Памятаў, як Духінскі, расчырванелы ад гневу, прымусіў тых шляхцюкоў публічна прасіць прабачэння ў цэлай вёскі. Не было жартаў!

— Лавіць і вешаць!

— Во, во, — горача падтрымаў Прончыка паліцмайстар. — Трэба вынішчаць гэту ганьбу чалавечага роду.

Астывалі.

— Але тут я вымушаны сказаць вам, пане Прончык, непрыемнае нам, паліцыі, — ён перад ім апусціў вочы, як добры сябра, які просіць зразумення. — Мы, як паліцыя, сустракаемся з некаторымі цяжкасцямі ў выконванні сваіх адказных абавязкаў. І, скажу вам шчыра, нашы жандары не дараслі да пастаўленых перад імі заданняў. Ну, але яны — працяцкія людзі...

Паліцмайстар скрывіўся ў паўслове: пагарджаў жандарамі, іх тупалобасцю.

Прончык — шляхціц, бедны, але шляхціц.

— Вось такія ў нас справы, пане Прончык, — здавалася, ад крыўды расплачацца перад ім. — Я, ведаеце, шмат думаў, пакуль наважыўся непакоіць вас сваім запрашэннем на гутарку, — і прыклеіўся зрокам: — Я, пане Прончык, моцна прашу вас: дапамажыце нам! Наш дэпартамент і я асабіста будзем удзячны вам. Вельмі!

— Ахвотна, чаму не, — згадзіўся Прончык.

— Непакоіць, ведаеце, бандыцкі выбрык у Востраве, — паліцмайстар цэліўся ў дзесятку. — Моцна непакоіць. Народ абураны... — ён пачуўся да таго ж добра, што схапіў бутэльку з ромам, каб... Паўстрымаўся.

— Як толькі даведаюся чаго — адразу да вас! — цвярдзіў Прончык зацята.

Дамаўляліся.

— Прашу не лічыцца з коштамі. Дзеля справядлівасці не шкода грошай. Мы іх дамо вам! — паліцмайстар прыкметна заспяшаў, адчыніў шуфляду, выклаў адтуль некалькі дзесяцірублёвак. Голас яго стаўся перапрашальным. — Патрэбна, пане Прончык, дурная фармальнасць: квітанцыя на гэту суму

